# Голас Радзімы

№ 28 (2118)
13 ліпеня 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




## СВЯТА «МІНСК-89»



ПРАЦЯГВАЕЦЦА РАБОТА

## ПАСЯДЖЭННЕ ЎРАДАВАЙ КАМІСІІ

Пад старшынствам намесніка Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Мазай адбылося чарговае пасяджэнне ўрадавай камісіі, якая разгледзела некаторыя пытанні расследавання падзей, што мелі месца ў лясным масіве Курапаты ў перыяд 1937—1941 гадоў.

Адзначана, што паказанні рада новых сведак пацвярджаюць першапачатковы вывад камісіі аб тым, што ў 1937—1941 гадах ва ўказаным месцы органамі НКУС БССР праводзіліся масавыя расстрэлы савецкіх грамадзян.

Выяўлена каля 90 работнікаў камендатуры і ўнутранай турмы НКУС БССР, якія маглі мець адносіны да расстрэлаў у 1937—1941 гадах у Курапатах і ведаць асобы загінуўшых. Устаноўлена таксама, што шэраг гэтых асоб былі ў далейшым рэпрэсіраваны, некаторыя памерлі. Устанавіць далейшы лёс астатніх пакуль што не ўдалося.

У архівах вывучана звыш 10 тысяч крымінальных спраў у адносінах да рэпрэсіраваных грамадзян. Аднак якіх-небудзь даных аб іх расстрэле ў Курапатах не выяўлена.

Камісія выказала глыбокую ўдзячнасць усім грамадзянам, якія праявілі гатоўнасць дапамагчы ва ўстанаўленні ісціны, папрасіла ў далейшым такую інфармацыю накіроўваць у Пракуратуру БССР.

Камісія працягвае работу з мэтай устанаўлення асоб, якія былі расстраляны ў лясным масіве Курапаты.

ВЫЙШАЎ УКАЗ

## ГАНАРОВАЕ ЗВАННЕ

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР вядомаму беларускаму акцёру—артысту Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Мікалаю Яроменку прысвоена ганаровае званне «Народны артыст СССР». Ён атрымаў яго за вялікія заслугі ў развіцці савецкага тэатральнага і кінематаграфічнага мастацтва, плённую грамадскую дзейнасць.

Указ падпісаў Старшыня Вярхоўнага Савета СССР М. Гарбачоў.

МЕДАЛЬ ПЕРШАДРУКАРА






**Выйшаў Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР аб зацвярджэнні палажэння аб медалі Францыска Скарыны і яе апісанне.**

**Медаль Францыска Скарыны заснаваны для ўзнагароджання работнікаў навукі, народнай адукацыі і культуры за выдатныя даследаванні гісторыі Беларусі, дасягненні ў галіне нацыянальнай мовы, літаратуры, мастацтва, кнігавыдання, культурна-асветнай дзейнасці, а таксама прапаганду культурнай спадчыны беларускага народа.**

**Медаль Францыска Скарыны вырабляецца з тампаку і мае форму правільнага круга дыяметрам 32 міліметры.**

**На правым баку медаля размешчана рэльефнае адлюстраванне Францыска Скарыны і выпуклы надпіс «Францыск Скарына».**

**На адваротным баку медаля «Сігнет» — друкарскі знак Францыска Скарыны.**

**НА ЗДЫМКУ: медаль Францыска Скарыны.**

З'ЕЗДЫ

## АГУЛЬНЫ КЛОПАТ

Сёння, напэўна, нікога не трэба пераконваць у тым, што экалагічнае становішча ў рэспубліцы крайне абвострана. Гэтак жа відавочна і другое: навесці ў нашым агульным доме парадак будзе значна лягчэй, калі намаганні дзяржаўных органаў падтрымае шырокая грамадскасць. Падтрымае актыўна, па-дзелавому. Пакуль жа некалькі дзесяткаў самадзейных экалагічных аб'яднанняў, што ўзніклі за апошнія гады, больш прыкметныя крытычным запалам слоўных выступленняў, чым практычнымі справамі.

Арганізацыйна аб'яднаць абаронцаў прыроды, накіраваць іх намаганні ў рэчышча стваральнай, канкрэтнай работы заклікаңы Беларускі экалагічны саюз (БЭС), першы з'езд якога адбыўся ў Мінску.

Перад дэлегатамі, а іх з усіх куткоў рэспублікі прыехала больш за 400 чалавек, натуральна, паўстала пытанне аб адносінах да Таварыства аховы прыроды, аб мэтазгоднасці існавання дзвюх грамадскіх арганізацый з аднолькавымі задачамі. У некаторых выступленнях прагучалі заклікі да адасаблення і размежавання. Аднак падтрымку большасці прысутных атрымала выказаная ў дакладзе аргкамітэта з'езда ідэя аб супрацоўніцтве ў рамках саюза ўсіх арганізацый экалагічнай накіраванасці.

Такая кансалідацыя сіл тым больш неабходная, што планы ў новага руху самыя вялікія. Зацверджаныя з'ездам «Асноўныя напрамкі дзейнасці БЭС» прадугледжваюць правядзенне экалагічных экспертыз і разнастайных прыродаахоўных мерапрыемстваў, стварэнне рэгіянальнага банка экалагічнай інфармацыі, удзел у ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі.

З'езд выбраў кіруючы орган саюза—праўленне. Прэзідэнтам саюза стаў вучоны з Гомеля, доктар біялагічных навук Барыс Савіцкі.

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

## КАНФЕРЭНЦЫЯ МСЭ

У французскім горадзе Ніца завяршыла работу паўнамоцная канферэнцыя Міжнароднага саюза электрасувязі, у якой удзельнічала дэлегацыя беларускіх сувязістаў.

Прадстаўнікі дзяржаў—членаў МСЭ прынялі асноўныя дакументы арганізацыі, выбралі кіруючыя органы, намецілі перспектыўныя напрамкі дзейнасці з улікам узрастаючага значэння электрасувязі для міжнароднага супрацоўніцтва, сацыяльнага і эканамічнага развіцця ўсіх краін свету.

Міністр сувязі БССР І. Грыцук падпісаў ад імя Беларускай ССР прыняты канферэнцыяй статут МСЭ і міжнародную канвенцыю электрасувязі.

ВЫСТАЎКІ



**У Мінску прайшла III міжнародная спецыялізаваная выстаўка халадзільнага абсталявання. Больш за 70 фірм з дваццаці краін свету прадставілі на ёй сваю прадукцыю. Сярод іх было і папулярнае беларускае аб'яднанне «Атлант», прадукцыя якога, бытавыя халадзільнікі «Верас», вядомыя многім замежным спажыўцам.**

**НА ЗДЫМКУ: вядучы інжынер вытворчага аб'яднання «Белаграпрамкамплект» У. КАРПОВІЧ і галоўны метролаг Мінскага аб'яднання «Мясамалпрам» Л. БЕЛАВУСАЎ гутараць з прадстаўніком фірмы «Данфос» (Данія) Л. ПАЎЛЬСЕНАМ.**

ВЫРАШАЕЦЦА ПРАБЛЕМА

## НАДАЦЬ СТАТУС ДЗЯРЖАЎНАЙ

«Беларускай мове—статус дзяржаўнай»,—з такой прапановай вырашыла звярнуцца ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР бюро Мінскага гаркома Кампартыі Беларусі.

Пасяджэнне бюро пачалося з абмеркавання здавалася, сёння ўжо звычайнага пытання «Аб далейшым развіцці руска-беларускага двухмоўя ў сферы культуры і народнай адукацыі». З дакладам выступіў член бюро гаркома, сакратар Саюза пісьменнікаў БССР В. Зуёнак, пасля слова ўзяла начальнік упраўлення народнай адукацыі Мінгарвыканкома Т. Драздовіч. Лічбы і факты, якія яны прывялі, занадта сумныя, каб маглі настроіць прысутных на вясёлы лад. Праўда, зрухі ёсць, але праблем значна больш. Дапусцім, у 1989/90 навучальным годзе ў горадзе плануецца стварыць 8 беларускіх школ. Дасягненне? Без сумнення. Але як выцягнуць такі воз, калі не хапае настаўнікаў, падручнікаў і... вучняў. Пры наяўным звужэнні сферы выкарыстання беларускай мовы бацькі не хочуць аддаваць дзяцей у беларускія школы і не бачаць перспектывы ў іх адкрыцці.

Пра нялёгкія шляхі выпраўлення памылак і дэфармацый, дапушчаных у свой час у моўнай сферы, пра крызісную сітуацыю беларускай мовы гаварылі рэктары Белдзяржуніверсітэта Л. Кісялеўскі і Беларускага тэхналагічнага інстытута І. Жарскі. Яны прыйшлі да вываду: без надання дзяржаўнага статуса праблему з мовай вырашыць немагчыма.

Сакратар гаркома партыі П. Краўчанка нагадаў, што перавод мінскіх школ на беларускую мову навучання — гэта толькі пачатак вялікай работы, якая павінна надалей набываць тэмпы. Родная мова ў горадзе павінна жыць паўнакроўным жыццём, загучаць у грамадскіх месцах: на транспарце, у службах быту і жыллёва-камунальнай гаспадаркі, на прадпрыемствах грамадскага харчавання, не гаворачы ўжо пра сферы культуры і народнай адукацыі.

Начальнікі ўсіх упраўленняў гарвыканкома завізіравалі дакументы, якія прадугледжваюць канкрэтныя захады па пашырэнні сферы ўжытку роднай мовы. У гарадской газеце «Вячэрні Мінск» адкрываецца завочная школа для тых мінчан, якія жадаюць авалодаць беларускай мовай.

## НА БЕЛАРУСКАМОЎНАЕ СПРАВАВОДСТВА

**На пасяджэнні калегіі Міністэрства культуры БССР разгледжана пытанне аб мерах па павышэнні ролі беларускай мовы ў развіцці нацыянальнай культуры і мастацтва. Даклад аб праграме пераводу ўстаноў культуры на беларускую мову зрабіў намеснік міністра культуры У. Матвееў. Ішла таксама гутарка аб вяртанні роднай мовы ў навучальныя ўстановы, якія знаходзяцца ў сістэме Міністэрства культуры. Абмеркаванне вёў старшыня калегіі, міністр культуры Я. Вайтовіч. Прынята рашэнне аб стварэнні моўнай камісіі з ліку членаў калегіі і работнікаў міністэрства для каардынацыі работы і кантролю за выкананнем пастаноў, якія маюць дачыненне да пераводу ўстаноў культуры на беларускую мову.**

## ГУЧАЦЬ РОДНАМУ СЛОВУ

У Мінску адбыўся ўстаноўчы з'езд Таварыства беларускай мовы. Выбрана рада таварыства ў складзе 57 чалавек. Старшынёй рады ТБМ абраны Н. Гілевіч, намеснікамі старшыні—А. Падлужны, П. Садоўскі, Я. Цумараў. Быў прыняты зварот да народа Беларусі.

Дэлегатаў з'езда вітала намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Мазай. У прыватнасці, яна сказала:

— Апошнім часам усе мы занепакоена абмяркоўваем шматлікія праблемы нашага грамадскага жыцця, тое становішча, у якім апынулася сёння эканоміка і культура краіны.

У ліку гэтых пытаняў, на адным з першых месцаў—пытанне аб лёсе роднай мовы, мовы нашай зямлі і яе народа, таго вялікага скарбу, які мы павінны зберагчы, перадаць нашчадкам, без якога наша існаванне як народа немагчыма. Таму кожнага з нас не можа не хваляваць тое, што беларускае слова ўсё часцей прыходзіць да нашых дзяцей з газет і радыё, а не з вуснаў маці. Тое, што не шануем, не беражом яго як належыць. Тое, што марудлівымі тэмпамі мяняюцца адносіны да роднай мовы.

Н. Мазай падкрэсліла, што ацэнка моўнай сітуацыі ў рэспубліцы ўжо дадзена і вызначаны асноўныя меры па карэннаму паляпшэнню стану роднай мовы. Вывяраюцца навучальныя планы агульнаадукацыйных школ, прынята рашэнне аб вывучэнні беларускай мовы ў рускамоўных школах, пачынаючы з першага класа, унесены істотныя змены ў практыку правядзення выпускных экзаменаў, рыхтуюцца падручнікі і метадычныя дапаможнікі. У педагагічных інстытутах, універсітэтах уводзяцца ўступныя экзамены па беларускай мове і літаратуры. Мяркуецца з новага навучальнага года перайсці да выкладання на беларускай мове ўсіх гуманітарных і грамдскіх дысцыплін. Упершыню ўводзіцца абавязковы курс вывучэння беларускай мовы ў тэхнікумах.

Пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР і Саюзе пісьменнікаў БССР працуе школа «Юны літаратар». У Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна адкрыта вячэрняе аддзяленне па спецыяльнасці «Беларуская мова і літаратура», арганізавана кафедра методыкі выкладання беларускай мовы, павялічаны прыём студэнтаў на гэтую спецыяльнасць у педагагічныя інстытуты.

Міністэрствам культуры БССР на 1988—1989 гады заключаны дагаворы дзяржаўнага заказу на стварэнне і пастаноўку твораў беларускіх аўтараў, распачата падрыхтоўка да стварэння тэатральных труп, якія працуюць на беларускай мове.

На рэспубліканскім тэлебачанні і радыё арганізаваны новыя рубрыкі і цыклы перадач па праблемах развіцця і павышэнню ролі беларускай мовы ў духоўным жыцці рэспублікі.

Гэта адзін бок справы.

Па-другое, неабходна пачаць сур'ёзную і канкрэтную практычную работу па пашырэнню сферы ўжывання беларускай мовы. Бо родная мова гэта не толькі выкладанне ў школе, але размова ў сям'і, на вуліцы, у дзіцячым садку малых і дарослых на працы, ужыванне роднай мовы органамі дзяржаўнага кіравання.

Зараз важным пытаннем, якое абмяркоўваецца вельмі актыўна, з'яўляецца вызначэнне статуса беларускай, рускай і іншых моў у нашай рэспубліцы.

Патрабуе значна большай увагі асветніцкая, тлумачальная праца сярод насельніцтва рэспублікі, каб данесці да сэрца і розуму кожнага веліч роднай мовы, адказнасць за яе будучыню, пашану да яе.

Па сваёй сутнасці праграмамі адраджэння беларускай мовы, нашай нацыянальнай культуры павінны стаць рэспубліканскія праграмы «Родная мова» і «Спадчына», распрацоўку якіх вядуць дзяржаўныя, навуковыя і грамадскія арганізацыі.

Яны патрабуюць ад усіх, хто неабыякавы да лёсу роднай мовы, карпатлівай паўсядзённай працы—працы дзяржаўнай, навуковай, асветніцкай, прапагандысцкай.

Улічваючы гэтыя акалічнасці, а таксама пажаданні грамадскасці, і ствараецца Рэспубліканскае таварыства беларускай мовы. Сваёй галоўнай мэтай таварыства ставіць пашырэнне ўжытку беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, усебаковае яе развіццё, захаванне яе самабытнасці і чысціні, зберажэнне і развіццё нацыянальнай культуры і народных традыцый.

ПАБРАЦІМСКІЯ СУВЯЗІ: ІДЭІ І ПРАПАНОВЫ

# НЕ ЎПУСЦІЦЬ ВЫГАДНЫЯ МАГЧЫМАСЦІ

Многа гадоў сталіца Беларусі падтрымлівае сувязі з горадам-пабрацімам у Злучаных Штатах Амерыкі — Дэтройтам. Гарады абменьваліся дэлегацыямі, мастацкімі калектывамі. Вось і нядаўна ў Мінску пабывала амерыканская дэлегацыя. Прызнаюся, што рэдакцыйнае заданне напісаць аб сустрэчы з гасцямі з Дэтройта, не вельмі мяне ўзрадавала. Колькі ўжо было такіх сустрэч. І ніякай карысці, акрамя магчымасці зрабіць паездку ў іншую краіну за кошт гарадской казны кіраўнікам гарадоў, ні мінчанам, ні жыхарам Дэтройта яны не прыносілі.

На гэты раз усё было інакш. Перамены, якія адбываюцца ў нашай краіне, перабудова жыцця савецкага грамадства пачалі аказаваць уплыў і на традыцыйна існуючую сістэму сувязей гарадоў-пабрацімаў. Госці з ЗША прыехалі не проста з візітам дружбы, а з канкрэтнымі дзелавымі прапановамі, канчатковай мэтай якіх з'яўляецца наладжванне трывалых узаемавыгадных эканамічных сувязей прамысловых прадпрыемстваў Мінска з рознымі фірмамі ў Дэтройце. Гэтая мэта вызначыла і склад амерыканскай дэлегацыі — кіраўнікі Асацыяцыі дзелавых колаў Дэтройта. І тут гасцей сустракалі прадстаўнікі Дзяржплана і Гандлёва-прамысловай палаты рэспублікі.

Праграма знаходжання дэлегацыі ў беларускай сталіцы была вельмі насычанай. За пяць дзён госці пазнаёміліся з рознымі бакамі эканамічнага жыцця горада, сустрэліся з групамі вядучых спецыялістаў па будаўніцтву, вытворчасці тавараў народнага спажывання, сферы абслугоўвання, прыгараднага аграпрамысловага комплексу, пабывалі на некаторых прадпрыемствах. Нас, журналістаў, запрасілі на апошнюю сустрэчу бізнесменаў Дэтройта з дырэктарамі і галоўнымі інжынерамі вядучых заводаў і вытворчых аб'яднанняў Мінска ў Дзяржплане рэспублікі. Гасцям давялося на гэтай сустрэчы цяжкавата. Паток прапаноў быў настолькі вялікі, што нават проста запомніць іх не было магчымасці. Таму яны папрасілі гаспадароў усё напісаць, каб можна было на пасяджэнні Асацыяцыі дзелавых колаў Дэтройта падрабязна далажыць пра іх усім членам і знайсці зацікаўленых партнёраў.

Жаданне кіраўнікоў прадпрыемстваў прадаць сваю прадукцыю за мяжу зразумелае, асабліва цяпер, калі ўсе працуюць ва ўмовах гасразліку. Але ці не збедніць гэта і без таго небагатыя прылаўкі нашых уласных магазінаў?

— Гэтага баяцца не трэба. Наадварот, продаж нашых вырабаў на экспарт прынясе выгаду спажыўцам, — растлумачыў прадстаўнік вытворчага аб'яднання «Атлант» па выпуску халадзільнікаў Леанід Калугін. — Раней прадпрыемствам было ўсё роўна, ідзе іх прадукцыя на экспарт ці не. Ніякіх жа выгад ад [illegible] гэтага яны не атрымлівалі. Цяпер, ва ўмовах перабудовы эканомікі, кожнае прадпрыемства атрымала права самастойна выходзіць на замежны рынак і тратаць зароблeную валюту па свайму меркаванню і патрэбах. Гэта значыць, што мы будзем мець магчымасць набыць самае сучаснае абсталяванне, тэхналогіі, што дазволіць выпускаць для нашых спажыўцоў тавараў больш і лепшай якасці.

Ну а што дала гэтая паездка нашым гасцям? Адзін з членаў дэлегацыі, Алан Кірылюк, — унук нашага суайчынніка, які пакінуў Радзіму яшчэ да рэвалюцыі. Цяпер Алан — прэзідэнт будаўнічай фірмы «Кірко». Ён і ўзяўся першы адказаць на гэтае пытанне.

— Як вы разумееце, у мяне у гэтай справе асаблівы інтарэс. Мае продкі, карані, звязваюць мяне з гэтай зямлёй. І, вядома ж, хочацца, каб паміж нашымі краінамі наладзіліся як мага больш цесныя адносіны ва ўсіх галінах, — растлумачыў Алан Кірылюк.—Што тычыцца іншых дзелавых людзей Дэтройта, то ўсе яны лічаць прамыя вытворчыя і гандлёвыя сувязі з Мінскам вельмі выгаднай справай. Нам час узнімаць пабрацімскія сувязі на новы ўзровень, каб у іх удзельнічалі не толькі невялікія дэлегацыі, а большасць насельніцтва. Шлях да гэтага развіццё эканамічных адносін. Такім жа мэтам паслужыць касмічны тэлемост паміж Мінскам і Дэтройтам, які мы дамовіліся правесці неўзабаве.

— У мінулым годзе, у час знаходжання ў Дэтройце дэлегацыі з Мінска, наша Асацыяцыя прапанавала сустрэцца з прамыслоўцамі са штата Мічыган, — працягнуў размову старшыня Савета дырэктараў Асацыяцыі Вільям Кадлін. — Мы не вельмі спадзяваліся на поспех, але адразу ж атрымалі згоду. Для нас гэта быў наглядны прыклад таго, як хутка старэюць нашы ўяўленні аб савецкіх людзях. Так з'явілася магчымасць перавесці традыцыйныя культурныя сувязі на дзелавое супрацоўніцтва, чаму вельмі моцна садзейнічае ваша новае палітычнае мысленне.

— У час наведання мінскіх прадпрыемстваў мы бачылі вельмі многа тавараў і вырабаў, якія нягледзячы на вострую канкурэнцыю, можна было б з поспехам прадаваць у ЗША, — дапаўняе сваіх калег кіраўнік дэлегацыі, прэзідэнт Асацы[illegible] Дзіяна Эджкамб.— Гэта бытавыя прыборы, крышталь, гадзіннікі, тканіны, іншыя тавары, нават вашы самазвалы, Дарэчы, ад прадстаўнікоў аб'яднання, якое выпускае гэтыя магутныя аўтамабілі, паступіла вельмі цікавая прапанова ў адрас фірмы «Дэтройт дызель» — аснашчаць беларускія самазвалы яе дызелямі, а затым сумесна прадаваць гэтыя машыны. Ёсць многа іншых ідэй і прапаноў. Хацелася б, каб яны ажыццявіліся ў рэальных кантрактах.

На жаль, да гэтага пакуль шлях не блізкі. І гаспадары, і госці задаволены сустрэчай, яе вынікамі, але і тыя, і іншыя ведаюць, што на шляху да іх ажыццяўлення стаяць пакуль жорсткія таможныя абмежаванні на ўвоз тавараў з СССР, прынятыя ўрадам ЗША яшчэ ў гады «халоднай вайны».

Дзіяна Эджкамб паказала нам копію пісьма дзелавых людзей штата Мічыган прэзідэнту ЗША Джорджу Бушу з настойлівым патрабаваннем прадаставіць Савецкаму Саюзу рэжым найбольшага спрыяння ў гандлі.

— Мы добра ведаем, што такія пісьмы прыходзяць цяпер да прэзідэнта з усіх канцоў краіны, — гаворыць Дзіяна Эджкамб. — І няма сумнення, што так званая «папраўка Джэксана-Вэніка» будзе неўзабаве адменена. Мы і так ужо даволі многа ўпусцілі ў адносінах з вашай краінай, уступілі свае пазіцыі заходнееўрапейскім краінам. І нельга дапусціць, каб магчымасці эканамічнага і гандлёвага супрацоўніцтва былі зноў упушчаны. Гэта супрацоўніцтва будзе выгадна ўсім.

Рыгор ФАМЕНКА.







**Назва гэтай выстаўкі адразу прыцягвае ўвагу — «Сталін: учора, сёння, заўтра». Выстаўка мастацкая. Але не мастацкія вартасці прадстаўленых работ (хаця і яны вельмі важныя) сталі для наведвальнікаў галоўным. Экспазіцыя носіць яўна выражаны палітычны характар, а гэта сёння асабліва вабіць людзей. Выстаўка прыехала ў Мінск з Ленінграда з дапамогай аднаго з ленінградскіх кааператываў. У сталіцы Беларусі яе прыняў выставачны салон рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў. Трэба дадаць, што сярод аўтараў работ ёсць і беларускія мастакі.**

**Жывапіс, скульптура, графіка — усё тут у першую чаргу скіравана на выкрыццё антыгуманізму, разбуральнай сілы сталіншчыны як палітычнай, грамадскай з'явы, а потым рыс яе галоўнага носьбіта і апалагета «бацькі ўсіх народаў» — Сталіна. Як і трэба было чакаць, адносіны наведвальнікаў да экспазіцыі не аднолькавыя, часам нават дыяметральна процілеглыя. Пра гэта вельмі выразна сведчаць запісы ў кнізе водгукаў, расказы супрацоўнікаў палаца. Сярод тых, хто станоўча ацэньвае экспазіцыю — людзі розныя. Ёсць сярод іх ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, настаўнікі, рабочыя. Але нямала і крытычных заўваг. Многія шкадуюць, што выстаўка не поўнасцю адпавядае сваёй назве, бо закранае толькі гістарычны пласт, а якія могуць быць праявы сталінізму сёння, тым больш заўтра, мастакі так і не здолелі сказаць. Калі ж быць уважлівым, то іх пэўныя рысы праступаюць нават і ў рэакцыі на выстаўку саміх наведвальнікаў. Напрыклад, калі з аднаго боку чыста «сталінісцкае» пажаданне «ўпячы» арганізатараў выстаўкі ў лагеры, то з другога, здавалася б, «антысталінісцкае» — «смерць сталіністам», але такое ж жорсткае, нецярпімае да іншадумства, як і першае. Развітацца з мінулым нялёгка, нават, калі гэтага і вельмі хочацца. Ачышчэнне не прыходзіць само па сабе. Патрэбна велізарная работа думкі і пачуццяў. Выстаўка, пра якую мы расказваем, дапамагае ў гэтым.**

**НА ЗДЫМКАХ: М. КОПІН. «Вялікае пахаванне»; А. КІР'ЯНАЎ. «37-мы год»; Ю. ГАЛЕЦКІ. «Узлёт».**

## ГАРАДЫ БУДУЧЫНІ

У Мінску, у інстытуце «Белдзяржпраект», адкрылася выстаўка, дзе можна пазнаёміцца з найноўшымі ідэямі і дасягненнямі беларускіх архітэктараў. У экспазіцыі многа цікавага — праектаў жылых і грамадскіх будынкаў, але большасць з іх яшчэ чакаюць увасаблення.

Як сведчыць выстаўка, перспектыўная праграма прадугледжвае рост патрабавальнасці да якасці сучаснай кватэры. І вырашэнне гэтай праблемы нельга ўскладаць толькі на індустрыяльнае домабудаванне. Шырокае прыцягненне працоўных калектываў, асобных грамадзян да індывідуальнага будаўніцтва, паскорыўшы выкананне праграмы ў цэлым, забяспечыла б і большую разнастайнасць жыллёвай забудовы. А цікавыя праекты для індывідуалаў ёсць.

Архітэктары Беларусі прапануюць нямала праектаў і па малапавярховых, па вышынных дамах з новымі прасторнымі секцыямі кватэр. Думаюць яны звяртацца і да «адраснага» будаўніцтва, як робіцца ў многіх сацыялістычных краінах, гэта значыць з улікам даных аб сям'і будучых навасельцаў.

Сёння большасць гарадоў рэспублікі забудоўваецца па добра прадуманых генеральных планах. Якасць беларускага горадабудаўніцтва высока ацэньваецца ў краіне. Напрыклад, Генеральны план забудовы Мінска, зацверджаны ў 1982 годзе, адзначаны прэміяй Савета Міністраў СССР.

Дасягнуць жаданага дазволіць разнастайнасць форм пры рацыянальнай планіроўцы, ператварэнне магутнасцей індустрыяльнага домабудавання ў гібкую вытворчую сістэму.

*ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

# ЦІ МОЖНА ДАПАМАГЧЫ?

Дарагія Суродзічы!

Гадамі зьбіралася напісаць да Вас, але баялася, каб не нарабіць вам шкоды і прыкрасьцяў. Паколькі ў вас абставіны зьмяніліся, дзякуючы вашаму савецкаму праваднiку Міхаілу Гарбачову, дык я і карыстаю цяпер з гэтае нагоды.

Я хачу перадусім ведаць, чаму назоў нашае краіны «Беларусь» пазбаўлены статуту быць знаным па-за межамі нашае радзмы. Чаму наш назоў узяты з расейскае мовы «Белоруссия», што ў транслітэрацыі ў ангельскай мове звучыць як «Byelorussia»? Пад гэтым апошнім нас уважаюць за рускіх. Нават пасьмейваюцца над намі і жартуюць і пытаюць, ці ёсць сярод нас чырвоныя, чорныя або зялёныя рускія (Are there red Russians, black Russians, or green Russians among you?).

Некаторыя асяродкі ў ЗША ўжо адкінулі чужацкі назоў і ўжываюць наш арыгінальны назоў «Беларусь», і паверце мне, што людзі зьвяртаюцца да нас з пашанай і просяць інфармацый аб нашым краі, нашай культуры, нашай гісторыі, нашых звычаях і нашай кулінарыі. Многія пытаюць, дзе можна дастаць падручнік беларуска-ангельскай мовы, або ангельска-беларускі слоўнік, або Біблію ў беларускай мове, або хоць бы малітвы па-беларуску дый кухню па-беларуску.

Мы на эміграцыі ня маем магчымасьці задаволіць просьбы патрабуючых, і было б вельмі пажаданым, каб вы там зь Менску прыйшлі нам на помач. А ці не маглі б вы распачаць сэкцыю ў «Голасе Радзімы» пад загалоўкам «Вучымся гутарыць па-беларуску» ці штось падабнае для тых, што імкнуцца навучыцца чытаць і пісаць па-беларуску. Асабліва патрэбна гэта для нашага маладняка.

Дзякуй за ўвагу. Спадзяюся на ваш водгук на вышэй сказанае ў «Голасе Радзімы».

З пашанай,

Чыкага, ЗША. **Ніна ЖУК.**

**АД РЭДАКЦЫІ: нас зацікавіла прапанова аўтара ліста наконт публікацыі ў газеце старонкі ці секцыі для моладзі «Вучымся гутарыць па-беларуску». Паколькі справа гэта важная і не такая простая, то хацелі б параіцца з чытачамі. Ці сапраўды патрэбна яна! Якой павінна быць секцыя! Ніна Жук выступіла з добрай, на наш погляд, ініцыятывай. І калі яна атрымае падтрымку іншых чытачоў «Голасу Радзімы», рэдакцыя зробіць усё неабходнае, каб дапамагчы тым, хто хоча навучыцца гаварыць па-беларуску.**

**У КАМІСІІ СВЯШЧЭННАГА СІНОДА**

# АДНАВІЦЬ ДОБРАЕ ІМЯ

**У Маскоўскай Патрыярхіі пад старшынствам мітрапаліта Растоўскага і Новачаркаскага Уладзіміра адбылося першае пасяджэнне Камісіі Свяшчэннага Сінода па вывучэнню матэрыялаў, якія адносяцца да рэабілітацыі духавенства і міран Рускай праваслаўнай царквы, рэпрэсіраваных у гады сталінізму.**

**З просьбай расказаць аб рабоце Камісіі я звярнуўся да члена Камісіі настаяцеля Свята-Аляксандра-Неўскай царквы Мінска, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны протаіерэя Віктара БЕКАРЭВІЧА.**

— Камісія мела меркаванне аб задачах, што стаяць перад ёй, аб мэтах і метадах яе работы, аб крыніцах звестак, што паступаюць у Патрыярхію, а таксама аб магчымым і жаданым супрацоўніцтве ў гэтай справе з дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі.

Выходзячы з жадання зняць са служыцеляў царквы, хто быў рэпрэсіраваны, усякі цень падазрэння ў іх нелаяльнасці да Савецкай дзяржавы ці варожасці да яе народа і Айчыны, падазрэнняў, што ўзнікалі раней у сувязі з іх свяшчэнным санам і рэлігійнымі перакананнямі, — удзельнікі сходу палічылі неабходным звярнуць увагу на прынцыповае адрозненне паміж рэабілітацыяй грамадзянскай і аднаўленнем добрага імя свяшчэнніка ці недухоўнай асобы, якія сумленна выконвалі перад грамадствам свой рэлігійны абавязак.

Усе, хто бязвінна пацярпеў за веру і імя Хрыстова, не маюць патрэбы ў рэабілітацыі з рэлігійна-маральнага пункту гледжання. Яны дастойныя ўшанавання царквой як пакутнікі ці спаведнікі. Што тычыцца грамадзянскай рэабілітацыі, то гэта перш за ўсё задача дзяржавы і грамадства ў цэлым, якія ў наш час ставяць сваёй мэтай аднавіць дзеля праўды сумленнае імя сваіх грамадзян, якія бязвінна пацярпелі.

Царква пры ўзва[illegible]ім падыходзе да гэтай [illegible]ладанай праблемы гатова аказваць садзеянне пры вырашэнні грамадствам гэтай высакароднай задачы.

Мы рады саўдзельнічаць у працэсе абнаўлення і будаўніцтва прававой дзяржавы і грамадства.

У адрас Камісіі паступаюць шматлікія просьбы веруючых аб аказанні дапамогі самім пацярпеўшым ці іх сваякам. Камісія перакanana ў тым, што хаця царква і не нясе адказнасці за рэпрэсіі і юрыдычна не абавязана выплачваць страты тым, хто пацярпеў, але архірэі, кіруючыся духам евангельскай любові і традыцыйнай міласэрнасці, могуць на месцах знайсці магчымасць адшукаць сродкі ці аказаць іншую дапамогу непасрэдна пацярпеўшым ад рэпрэсій ці іх прамым сваякам (у першай ступені роднасці), калі апошнія не маюць іншых крыніц існавання ці гэтыя крыніцы яўна недастатковыя.

Удзельнікамі пасяджэння былі таксама разгледжаны пісьмы і запыты, што паступілі на даны час з 29 епархій, наконт рэабілітацыі канкрэтных асоб, удакладнення месцаў іх пахавання ці аказання матэрыяльнай дапамогі сваякам пацярпеўшых. У адпаведныя прававыя дзяржаўныя інстанцыі былі зроблены запыты.

Камісія звяртаецца да ўсіх з просьбай садзейнічаць збіранню звестак аб рэпрэсіраваных свяшчэннаслужыцелях і недухоўных асобах Рускай праваслаўнай царквы для ўвекавечання іх памяці.

**Іераманах Серафім ТРАФІМАЎ.**

**ГІСТОРЫЯ БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ**

**(Працяг. Пачатак у № 26—27).**

Пасля такой заявы «выбраныя прадстаўнікі» ўключаюцца ў склад польскага сейма. Разам з тым, ні ў якім разе Польшча не павінна скарыстаць плебісцыт. Апасенні цалкам рэальныя, таму што да вырашэння пытання дапускаліся б больш шырокія слаі насельніцтва, а не толькі памешчыкі і блізкія ім па духу прадстаўнікі маёмасных класаў. Нельга было чакаць жадаемага развіцця падзей і ад склікання канстытуцыйнага сейма ў Вільні. Гэта таксама разглядалася як небяспечны крок.

Яшчэ больш цяжка было «абгрунтоўваць» прэтэнзіі Польшчы на землі, якія ўваходзілі некалі ў склад Рэчы Паспалітай і былі адарваны.

Для ўмацавання «польскага панавання» неабходна паланізацыя беларускага насельніцтва, і гэта трэба пачаць неадкладна, праяўляючы пры гэтым гібкасць, паслядоўнасць і напорыстасць. Паланізацыя можа разлічваць на поспех перш за ўсё таму, што беларусы не з'яўляюцца самастойнай нацыяй. Да таго ж няма геаграфічных і геалагічных перадумоў для ўтварэння беларускай дзяржаўнасці. Мелася на ўвазе адсутнасць натуральных межаў, зручных шляхоў зносін, неўраджайныя глебы і суровы клімат, поўная адсутнасць карысных выкапняў, што якраз асабліва важна для забеспячэння гаспадарчай самастойнасці. — *гл. ніжэй*

# ЯШЧЭ АДНА АЛЬТЭРНАТЫВА

Пашырэнне — паклаў патрабаванне аб адраджэнні Рэчы Паспалітай, «аднаўленні парушанай гістарычнай справядлівасці». Гэтая ідэя атрымала ўвасабленне ў праекце мірнага дагавора паміж Польшчай і Савецкай Расіяй, распрацаваным міжведамасным падрыхтоўчым бюро да мірнай канферэнцыі, якое кіравалася ўстаноўкамі ўрада. Праўда, межы 1772 года лічыліся максімальнымі патрабаваннямі. Калі ж іх не ўдасца адстаяць, то, згодна з сакрэтным рашэннем ўрада ад 8 сакавіка 1920 года, польская дэлегацыя на перагаворах павінна вылучыць пытанне аб «лініі бяспекі» як мінімальным патрабаванні. Лінія бяспекі па сутнасці справы — новы варыянт тэрытарыяльных прэтэнзій Польшчы. Яна павінна была прайсці недзе паміж лініяй фронта і межамі 1772 года, адпавядаць стратэгічным, эканамічным і адміністрацыйным інтарэсам Польшчы. Зноў-такі прынцып этнічных межаў адхіляўся. Пад выглядам абароны ваенных, эканамічных і палітычных інтарэсаў Польшча мела намер захапіць чужыя землі да Дняпра і нават на ўсход ад гэтага рубяжа. Расія павінна была даць права «вольна выказвацца адносна сваёй дзяржаўнай прыналежнасці насельніцтву, якое жыло на тэрыторыі між лініяй бяспекі і межамі 1772 года».

Дакумент адлюстраваў не пазіцыі асобных партый ці асоб, а меркаванне ўрада, афіцыйную лінію паводзін дыпламатаў на магчымай канферэнцыі, якая, дарэчы, не адбылася па віне польскага боку, які рыхтаваўся да новага этапа вайны і таму ўсяляк перашкаджаў перагаворам.

Пастаянна заяўляючы аб правах польскага народа на самастойнае дзяржаўнае існаванне, польскія палітыкі не хацелі лічыцца з тым, што такія ж правы маюць і народы-суседзі. Экспансія несумяшчальная з прынцыпамі самавызначэння і раўнапраўя народаў. Польскі ўрад спасылаўся на гэтыя прынцыпы, калі было выгадна, і не жадаў прымяняць іх у адносінах да іншых народаў ці тлумачыў іх адвольна.

Само адраджэнне Польскай дзяржавы было выяўленнем права польскага народа на самастойнае дзяржаўнае развіццё, выпраўленнем гістарычнай несправядлівасці, у выніку чаго Польская дзяржава знікла на карце Еўропы. Дэкрэтам ад 28 жніўня 1918 года Савецкі ўрад аб'явіў аб несапраўднасці дагавораў паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстра-Венгрыяй аб падзеле Польшчы, тым самым яшчэ раз пацвердзіўшы права польскага народа на самавызначэнне, на стварэнне суверэннай нацыянальнай дзяржавы. Ануляванне дагавораў аб падзеле Рэчы Паспалітай зусім не было прызнаннем у новых умовах законнасці межаў Польскай дзяржавы, якія яна мела ў мінулым. Гэта азначала б парушэнне правоў іншых народаў, якія некалі ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай — беларусаў, украінцаў, літоўцаў.

Згодна з праектам мірнага дагавора Савецкая Расія павінна была прызнаць той парадак, які ўсталюе на беларускіх і ўкраінскіх землях Польшча, а «таксама адмовіцца ад усялякіх спроб аказваць уплыў на фарміраванне палітычных і грамадскіх адносін на гэтых землях». Савецкі ўрад павінен быў адмовіцца «ад ўсякіх правоў на землі, што ўваходзілі ў склад Польшчы ў 1772 годзе.

**Вадзім КРУТАЛЕВІЧ.**

**(Заканчэнне будзе).**

# АДЗІНАЯ БАЯВАЯ СЯМ'Я

## ДАПАМОГА НАСЕЛЬНІЦТВА ПАРТЫЗАНАМ БЕЛАРУСІ Ў БАРАЦЬБЕ СУПРАЦЬ НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ

САВЕЦКІ партызанскі рух у гады Вялікай Айчыннай вайны — гэта буйны ваенна-палітычны фактар, які адыграў важную ролю ў забеспячэнні перамогі над германскім фашызмам. Толькі ў Беларусі ў радах партызан і падпольшчыкаў змагалася з ворагам больш за 440 тысяч чалавек, скрытыя партызанскія рэзервы налічвалі звыш 400 тысяч чалавек. Масавы характар насіла супраціўленне няўзброенага грамадзянскага насельніцтва ваенным, эканамічным і палітычным мерапрыемствам акупантаў.

Нябачны размах і неадольнасць партызанскага руху былі абумоўлены яго глыбока народным характарам. Народ бачыў у асобе партызан сваіх абаронцаў, прадстаўнікоў Савецкай улады і, як мог, падтрымліваў іх. «Як маці клапоціцца аб сваіх дзецях, так клапоціцца аб нас усё насельніцтва», — пісаў у газеце «Правда» 18 жніўня 1941 года Ц. Бумажкоў, адзін з першых партызан Вялікай Айчыннай вайны, удастоеных звання Героя Савецкага Саюза.

Дапамога насельніцтва народным мсціўцам праяўлялася ў самых разнастайных формах. Нягледзячы на тое, што людзі самі перажывалі вялікія цяжкасці з прадуктамі харчавання, яны дзяліліся апошнім кавалкам хлеба, малаком, гароднінай, аддавалі партызанам, што мелі.

Своеасаблівым тылам для народных мсціўцаў сталі вызваленыя ад акупантаў тэрыторыі — партызанскія зоны, дзе жыхары рабілі ўсё магчымае, каб забяспечыць партызанскую армію харчаваннем, адзеннем, іншымі матэрыяльнымі сродкамі. Партызаны дапамагалі сялянам сеяць і ўбіраць ураджай, перадаючы на час палявых работ цяглавую сілу, рамантавалі сельгасінвентар, працавалі ў полі, ахоўвалі вёскі, вялі няспынныя бai з карнымі атрадамі, якія спрабавалі адабраць ураджай у сялян. Летам 1943 года партызаны толькі Мінскай і Магілёўскай абласцей правялі да 100 буйных баёў за хлеб.

Варта адзначыць, што падпольныя партыйныя органы, партызанскае камандаванне строга кантралявалі паводзіны партызан у вёсках: не дазвалялася самавольнічаць і крыўдзіць насельніцтва, забіраць апошняе. У выпадках нетактоўных паводзін, а іншы раз і марадзёрства да партызан прымаліся самыя строгія меры, аж да расстрэлу.

Здача хлеба была добраахвотнай. Па ўласнай ініцыятыве правялі збор прадуктаў для партызан жыхары вёсак Шыльвы, Забярэззе, Паташня Юрацішкаўскага раёна Баранавіцкай вобласці. Напрыклад, сяляне вёскі Крупля здалі атраду імя Аляксандра Неўскага летам і восенню 1943 года звыш 200 пудоў жыта, 100 пудоў бульбы, шмат сухароў. У выніку добраахвотнай здачы сялянамі хлеба ў Гомельскай вобласці толькі атрад «Мсцівец» нарыхтаваў 2 тысячы пудоў збожжа, атрад імя Чапаева — 2,5 тысячы пудоў, атрад імя Кірава — 1 тысячу пудоў. Мясцовыя жыхары дапамагалі таксама забяспечваць партызан соллю, медыкаментамі, мылам. З дапамогай жыхароў вёсак Хоцінава і Няжараўка Слуцкага раёна з нямецкіх складоў гарадскога пасёлка Урэчча было вывезена да партызан 1 200 тон солі, 600 кілаграмаў круп, 1 400 — мукі. Многа медыкаментаў і перавязачных матэрыялаў атрымалі народныя мсціўцы ад жыхароў Мінска і іншых гарадоў рэспублікі.

Насельніцтва клапацілася і аб раненых партызанах, прадастаўляла ім жыллё, дапамагала наладжваць партызанскія шпіталі. З першых дзён акупацыі дапамагала раненым савецкім воінам, а затым партызанам жыхарка вёскі Шоста[illegible] брыгада Любанскага раё[illegible] Марфа Мігун. Цэлую зіму ў [illegible] доме быў партызанскі шпіталь.

Часта сяляне збіралі для раненых малако, масла, мяса, яйкі, мёд, бялізну. Такую ініцыятыву праявілі, напрыклад, сяляне вёсак Гутка, Рачкі, Рудня Целяханскага ра[illegible] Пінскай вобласці.

Сяляне часта прыходзілі на дапамогу партызанам у самыя крытычныя моманты. Партызанская брыгада імя Чапаева (Віцебская вобласць) трое сутак вяла няспынныя бai, сілы былі на зыходзе. І тады жыхары бліжэйшых вёсак, пасёлка Кукшынава, мястэчка Варонічы і іншых прабраліся на баявыя пазіцыі і прынеслі прадукты, адзенне.

Дарэчы, насельніцтва ў большасці выпадкаў па ўласнай ініцыятыве праводзіла збор усяго неабходнага для абмундзіравання байцоў. Насельніцтва Ушацкага раёна, напрыклад, перадало партызанам у 1943 годзе 500 кажухоў, 700 пар валёнак, 150 пар скуранога абутку, 250 метраў палатна і г. д.

Сапраўдным гераізмам быў удзел жыхароў Беларусі ва ўзбраенні партызанскіх атрадаў. Яны збіралі на палях баёў, што прайшлі ў Беларусі летам 1941 года, зброю, боепрыпасы і перадавалі іх народным мсціўцам. Нярэдка хавалі зброю, і потым з ёю самі прыходзілі ў атрады.

Сотні вінтовак, дзесяткі аўтаматаў, кулямётаў, тысячы патронаў перадалі партызанам Мінскага злучэння жыхары вёсак Рубяжы, Пасека, Сінягава, Гасціно, Салон Старадарожскага і Любанскага раёнаў. У Віцебскай вобласці 80-гадовы Пётр Шчэрбін аддаў партызанскай брыгадзе С. Кароткіна 8 вінтовак і 400 патронаў, схаваных у лесе. Дуня Мяцеліца прыпасла для партызан 15 вінтовак і 500 патронаў, якія былі закапаны пад акном яе дома. Калгаснікі С. Осіпаў, І. Букаты перадалі магілёўскім партызанам 2 станковыя і 5 ручных кулямётаў, аўтамат, дзесяткі вінтовак, тысячы патронаў, сотні мін і гранат. Жыхар вёскі Старое Сяло Клічаўскага раёна Іван Кірын адшукаў у вёсцы Бярэзіне 45-міліметровую гармату, акрамя таго, перадаў партызанам 2 станковыя і 2 ручныя кулямёты, да 30 тысяч патронаў. Сярод тых, хто дастаўляў партызанам зброю і боепрыпасы, былі 86-гадовы ляснік з вёскі Гасціно Старадарожскага раёна Мікіта Шэшка, 99-гадовы жыхар вёскі Купленка Крупскага раёна А. Макарэвіч і іншыя.

Нярэдка савецкія патрыёты смяртэльна рызыкавалі, каб здабыць для партызан зброю і боепрыпасы. Так, сялянка з Парэчча Расонскага раёна Віцебскай вобласці Е. Карпенка выкрала ў гітлераўца скрыню патронаў і перадала партызанам. Фашысты схапілі Еўдакію Андрэеўну. «Вы, каты, усё роўна будзеце знішчаны Чырвонай Арміяй і партызанамі», — кінула ім у твар беларуская патрыётка перад смерцю.

Неацэнную дапамогу партызанам аказвалі жыхары вёскі, знаёмыя са слясарнай і кавальскай справай. Яны рамантавалі, а іншы раз рабілі новую зброю, выраблялі дэталі да пісталетаў, аўтаматаў ці кулямётаў, да вінтовак. Сапраўдная збройная майстэрня дзейнічала ў доме братоў А. і Ф. Валасевічаў з вёскі Канстанцінава Мядзельскага раёна Вілейскай вобласці. Вінтоўкі, аўтаматы, адрамантаваныя імі, безадмоўна дзейнічалі.

З дапамогай мясцовага насельніцтва партызаны стваралі абарончыя збудаванні, аэрадромы, пасадачныя пляцоўкі і іншыя ваенныя аб'екты. Толькі ў Лепельскай зоне дзейнасці партызан у час барацьбы з карнікамі ў будаўніцтве акопаў і абарончых рубяжоў удзельнічала 15 тысяч чалавек. Летам 1942 года жыхары вёсак Старасекі, Загалле, Альбінск, Калінаўка, Ніжын, Скаўшын, Сухая Міля, Убібачкі і іншых удзельнічалі ў будаўніцтве партызанскага аэрадрома ва ўрочышчы Зыслаў Любанскага раёна. У Пінскай вобласці летам 1943 года каля 5 тысяч сялян з вёсак Чаланец, Пузічы, Навіны, Рахавічы, [illegible]цк, Бярэзнікі, Грычынавіч[illegible]ейна, Цімашэвічы і Хорастава таксама дапамаглі партызанам пабудаваць аэрадром у ваколіцах вёскі Навіны.

Цяжка было б абысціся партызанам і без сувязных, гарадскіх і сельскіх жыхароў, якія, нярэдка рызыкуючы сваім жыццём за[illegible]чвалі мсціўцаў звесткамі [illegible] праціўніку. Каштоўныя разведвальныя даныя дастаўлялі партызанам шэсць сясцёр Хаўранковых з вёскі Ганцавічы Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці. Адна з іх, Надзея, была расстраляна гітлераўцамі ў верасні 1942 года, другая, Марыя, трапіўшы ў фашысцкія засценкі, пасля нечалавечых катаванняў была павешана ў Оршы.

Насельніцтва часта ўдзельнічала ў баявых аперацыях народных мсціўцаў — разгроме варожых гарнізонаў, «рэйкавай вайне», знішчэнні сувязі. Так, у час разгрому магілёўскімі партызанамі варожага гарнізона на чыгуначнай станцыі Слаўнае 28 жіўня 1942 года мясцовыя жыхары разабралі ў раёне станцыі рэйкі. У ходзе «рэйкавай вайны» летам 1943 года партызаны брыгады імя С. Кароткіна Віцебскай вобласці пры дапамозе насельніцтва на працягу чатырох гадзін разабралі 5 кіламетраў двухкалейнага чыгуначнага палатна, знішчылі 7,6 кіламетра тэлефоннай сувязі, у чатырох месцах перакапалі насып, у выніку чаго ўчастак дарогі Сіроціна — Обаль быў выведзены са строю на трое сутак.

Нямала садзейнічалі поспеху баявых аперацый партызан жыхары, якія непрыкметна праводзілі дыверсійныя групы, а іншы раз і цэлыя атрады па толькі ім вядомых сцежках да чыгункі і іншых важных аб'ектаў ворага. У выпадку неабходнасці яны скрытна перапраўлялі народных мсціўцаў цераз рэкі, забяспечвалі транспартам. Нястомным правадніком пінскіх партызан быў 60-гадовы селянін з вёскі Малыя Сцяблевічы Ленінскага раёна Пінскай вобласці Міхаіл Харытановіч. 45 разоў ён праводзіў групы падрыўнікоў, паказваў бяспечныя падыходы да чыгункі, сам быў удзельнікам баявых аперацый партызан. Гітлераўцы, даведаўшыся пра яго сувязі з народнымі мсціўцамі, па-зверску расправіліся з патрыётам.

Фашысцкі тэрор, расправа за дапамогу партызанам не толькі не запалохалі патрыётаў, але і ўзмацнілі іх нянавісць да гітлераўскіх акупантаў. Партызаны і народ Беларусі складалі адзіную баявую сям'ю, адзіны патрыятычны фронт. Неразрыўная сувязь з насельніцтвам з'яўлялася той жыватворнай крыніцай, дзякуючы якой народныя мсціўцы змаглі не толькі выстаяць у барацьбе супраць моцнага і кавapнага ворага, але і дабіцца сур'ёзных баявых поспехаў, аказаць значную дапамогу Савецкай Арміі.

**Эма ЯЗЫКОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**ТАВАРЫСТВА САВЕЦКІХ ГРАМАДЗЯН, ЯКІЯ ПАСТАЯННА ЖЫВУЦЬ У ПОЛЬШЧЫ**

# БЛІЖЭЙ ДА СУАЙЧЫННІКАЎ, БЛІЖЭЙ ДА РАДЗІМЫ

**У Польшчы пражывае многа нашых суайчыннікаў, якія маюць савецкае грамадзянства. У сакавіку гэтага года ў Варшаве адбыўся ўстаноўчы з'езд, на якім было створана Таварыства савецкіх грамадзян. Журналістка агенцтва Інтэрпрэс Барбара ЖМІЕЎСКАЯ гутарыць з Аленай КАРАЛЁВАЙ, старшынёй таварыства.**

*— Першае ўражанне ад устаноўчага з'езда таварыства, які праходзіў у Варшаве ў сярэдзіне сакавіка гэтага года, — гэта ў пераважнай большасці жанчыны...*

— Сярод 12 тысяч савецкіх грамадзян, хто жыве ў Польшчы, большасць гэта жанчыны, якія выйшлі замуж за палякаў і для якіх Польшча стала другой радзімай (нас 9 375 чалавек). Мы прадстаўляем самую шматлікую групу іншаземцаў, звязаных з Польшчай (савецкія грамадзяне — гэта 56 працэнтаў іншаземцаў з консульскімі пашпартамі). Змешаныя польска-савецкія шлюбы сустракаюцца на тэрыторыі практычна ўсёй краіны, але больш за ўсё іх у вялікіх гарадах (Варшава, Кракаў, Катавіцэ, Радом) і ў ваяводствах — Вроцлаўскім, Шчэцінскім, Беластоцкім, Гданьскім. Штогод ад 220 савецкіх грамадзян паступаюць заявы аб дазволе пастаяннага пражывання ў Польшчы.

*— А калі такі дазвол атрыманы, што адбываецца далей?*

— Звычайна яны працуюць, хаця не заўсёды ў адпаведнасці са сваёй спецыяльнасцю і кваліфікацыяй. Большасць выкладаюць рускую мову ў школах і інстытутах. Кожная трэцяя савецкая грамадзянка разам з мужам працуе ў вёсцы, ёсць сярод нас урачы, перакладчыкі, навуковыя работнікі, а таксама мастакі, дзеячы культуры, як напрыклад, Канстанцін Чычышвілі, вядомы тэлерэжысёр.

Мы жывём, як усе палякі: выхоўваем дзяцей, займаемся хатнімі справамі. І таксама маем справу з рознымі праблемамі, перажываем мы і крызісы сямейнага жыцця. Тады асабліва хацелася б сустрэцца з кім-небудзь блізкім ці хаця б паразмаўляць на роднай мове.

*— Думаю, што мы набліжаемся да вытокаў задумы Таварыства савецкіх грамадзян, хто пастаянна жыве ў Польшчы...*

— Хтосьці ж павінен дапамгчы маладзенькай жанчыне, якая трапляе ў новы асяродак і не ведае ні мовы, ні тутэйшых звычаяў. Такая адаптацыя не заўсёды лёгка праходзіць. У вялікіх гарадах бывае прасцей, куды больш складана ў вёсках і невялікіх гарадах.

*— Я чула, што на сустрэчах з генеральным консулам СССР у Варшаве Генадзем Паліпняком вы расказваеце пра свае праблемы, пішаце пра іх Эдуарду Шэварднадзе і ў рэдакцыю газеты «Правда». Што вы хацелі б змяніць?*

— Доўгія гады нам, савецкім грамадзянам, даводзілася дабівацца запрашэнняў, каб паехаць да сябе на Радзіму. А кожны ведае, як нялёгка атрымаць такое запрашэнне — патрэбны ўсемагчымыя даведкі і з месца жыхарства, і з працы. У многіх з нас старыя бацькі, у якіх проста няма сілы стаяць у чэргах, каб сабраць усе неабходныя дакументы. Акрамя таго, як вядома, не ўсе могуць запрашаць і не ва ўсе гарады. Калі сям'я раскідана, то вельмі цяжка дабіцца дазволу, каб пабачыцца з усімі. Здаралася, жонка (савецкая грамадзянка) атрымлівала дазвол на паездку ў нейкі горад, тады як муж і дзеці—польскія грамадзяне — не, і тады ім даводзілася праводзіць час на вакзале. Год назад некалькі знаёмых, звязаных з Домам савецкай культуры і навукі ў Варшаве, вырашылі нешта зрабіць. Нас вельмі ўзрадавалі словы Эдуарда Шэварднадзе, сказаныя ім на сустрэчы з работнікамі консульскіх устаноў СССР у снежні мінулага года, што трэба павярнуцца тварам да 150 тысяч савецкіх грамадзян, хто жыве за мяжой.

*— Чым цікавіцца ваша таварыства?*

— Нашы інтарэсы даволі разнастайныя. Тут перш за ўсё варта помніць, што мы рассеяны па ўсёй краіне і не звязаны арганізацыйна. Калі год назад мы пачыналі рэгулярныя сустрэчы, прыходзіла чалавек 30. 28 снежня мінулага года, калі таварыства было зарэгістравана, на сустрэчу прыйшло ўжо 80 чалавек. А цяпер нас 180. Магчыма, што інфармацыя аб сустрэчах (а мы сустракаемся ў апошнюю сераду кожнага месяца, прыходзіць многа гасцей, у тым ліку і консул) яшчэ не дайшла да ўсіх. Мы далі дзве аб'явы ў газетах — магчыма гэта яшчэ мала. Аб таврыстве ўсё часцей пішуць польскія газеты, і нашы суайчыннікі даведваюцца пра наша існаванне. Пра гэта сведчаць лісты, што прыходзяць з розных куткоў Польшчы.

*— Раскажыце пра задачы таварыства.*

— Гэта ў першую чаргу інтэграцыя раскіданых па ўсёй краіне патэнцыяльных членаў. Мы плануем, напрыклад, сумесныя экскурсіі ў Савецкі Саюз. Варшаўскае аддзяленне арганізавала ўжо дзве — у Брэст і Львоў, а члены Лодзінскага аддзялення разам з сем'ямі мелі магчымасць удзельнічаць амаль у 20 такіх паездках. Мы плануем заняцца людзьмі, якія апынуліся ў цяжкім матэрыяльным становішчы (ёсць ідэя стварэння польска-савецкіх грамадстваў, фондаў). Мы хочам узяць пад апеку магілы савецкіх ваеннапалонных у Польшчы.

*— У таварыстве створана дзве секцыі: па справах моладзі і пенсіянераў.*

— Гэтыя дзве групы людзей маюць патрэбу ў асаблівай дапамозе. Мы думаем, што дзеці ў змешаных шлюбах павінны ведаць дзве мовы, і ў хуткім часе арганізуем для іх курсы рускай мовы. Маладыя жанчыны павінны як мага хутчэй вывучыць польскую мову, і на іх перш за ўсё разлічаны курсы польскай мовы.

*— Гэта запатрабуе ад вас вялікіх выдаткаў.*

— Перш чым пачаць эканамічную дзейнасць, мы пастараемся абмежавацца тым, што нам даюць узносы. Нам не хацелася б дабівацца датацыі, паколькі таварыства хацела б захаваць незалежнасць.

**«БОНДА»—АДЗІН З ПАПУЛЯРНЫХ РОК-КАЛЕКТЫВАЎ РЭСПУБЛІКІ**

# ЗАСТАЦЦА САМІМІ САБОЙ

«Бонда». Гэта назва аднаго з пачынальнікаў беларускага рок-руху ўжо дастаткова вядомая, і не толькі ў самой Беларусі. Не будзем, аднак, займаць месца цытатамі з аўтарытэтных рускіх, літоўскіх, польскіх, балгарскіх, амерыканскіх выданняў. Бадай, больш важным будзе не тэндэнцыйны падбор уражанняў, якія складаюцца з адных захапленняў, а спроба паглыбіцца ў сутнасць з'явы.

Сапраўды ж, першыя рок-калектывы з'явіліся на Беларусі яшчэ ў 60-я гады («Дойліды», «Панібраты», «Шпакі» і г. д.), але пра зараджэнне нацыянальнай рок-плыні мы тады яшчэ не гаварылі. А між тым і поспехі былі ў тае плеяды: сказаць хоць бы, што шырока вядомы цяпер прафесійны кампазітар Уладзімір Кандрусевіч (сімфанічная, балетная, электронная музыка) у той час іграў якраз у «Панібратах».

Сутнасць адрознення новай беларускай рок-генерацыі ад плеяды 60-х, бадай, удала сфармуляваў на старонках газеты «Чырвоная змена» прэзідэнт мінскага рок-клуба «Няміга» Анатоль Мяльгуй. На яго думку, калектывы, падобныя «Бондзе», «Мроі», «Магістрату», «прымусілі размежаваць такія паняцці, як «беларускі рок» і «рок з Беларусі».

Гэта, зазначу, зусім не каламбур, калі ўлічыць, што на тэрыторыі рэспублікі разам з беларусамі жывуць прадстаўнікі іншых народаў (руская, палякі, літоўцы, яўрэі, татары...), якія маюць права на развіццё тут сваіх культур ва ўсіх напрамках. І было б неразумна залічваць да беларускага року калектыў, які нават мовай беларускай ніколі не карыстаўся. Ў той жа час нельга і выкрэсліваць яго з культурнага жыцця рэспублікі, калі яго творчы патэнцыял нешта з сябе ўяўляе.

«Бонда» спачатку выказала сваю прыналежнасць да беларускай культуры праз мову. Яшчэ ад пачатку, калі ў 1982 годзе студэнты Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута Янка Маркаў, Сяржук Кныш і Ігар Варашкевіч заснавалі свой рок-гурт, былі спробы ствараць асобныя кампазіцыі па-беларуску. Але толькі ў 1984 годзе саспела ідэя цалкам даверыць сваё творчае «я» адзінаму выказніку—пакладзенай на сучасны рытм рока роднай мове. На той час да калектыву далучыліся Сяржук Краўчанка і Вячаслаў Корань, а таксама была выбрана са старадаўняга беларускага слоўніка цяперашняя назва — «Бонда».

Трэба сказаць, што калектыў ад спявання рока на беларускія тэксты пайшоў ужо далей: яго творчасць усё больш звярталася да гісторыі Беларусі, да яе сучасных праблем. Як, напрыклад, у песні «Слуцкая брама»:

**Спазналі многа тваё**
**велічныя сховы,**
**Дабра і зла ліхую**
**кругаверць.**
**Сябрам была ты шчаснаю**
**падковай,**
**А лютым ворагам абяцала**
**смерць.**

Нават на глабальныя праблемы калектыў усё больш глядзіць «праз Беларусь». І, як бачыце, сама мова—стрыжань культуры пачала духоўную эвалюцыю калектыву, спрыяла яго вяртанню да каранёў. Дарэчы, тэксты ў групе піша барабаншчык Сяржук Кныш, а музыку—бас-гітарыст Ігар Варашкевіч і гітарыст Янка Маркаў (апошнім часам у калектыве з'явіліся два новыя музыканты Мікола Логінаў і Андрэй Хмяльніцкі), хоць, зрэшты, у аранжыроўцы прымаюць удзел усе «бондаўцы».

Але дзеля чаго гэта вартанне?

Бадай, без яго немагчымы рух наперад. Мы не станем лепшымі, калі забудзем, якімі былі. Не заўважым, як станем горшымі, калі не будзем бачыць, што гублялі на сваім шляху.

«Бонда» лічыць, што мы згубілі значную частку сваёй культуры (гэта датычыць не толькі беларусаў). Яна хоча хоць нешта вярнуць маладому пакаленню. І верыць у гэтае пакленне, ведаючы ўсе яго праблемы:

**Ім пазычылі чужое аблічча,**
**Ім замкнулі пам[illegible] на**
**замок,**
**Ім даўно ўжо ўсё стала**
**зазвычай,**
**Ім даўно ўжо мову**
**заняло...**

Праўда, наш аптымізм у гэтым сэнсе (наконт магчымасцей папулярнай музыкі) падзяляюць далёка не ўсе. Неяк на пасяджэнні грамадскага мастацкага савета музычнай рэдакцыі Беларускага тэлебачання вырашалася пытанне супрацоўніцтва з калектывамі мінскага рок-клуба «Няміга» (сярод заснавальнікаў гэтай суполкі была і «Бонда»). Вядомы кампазітар Ігар Лучанок выказаўся даволі катэгарычна:

— Гэта псеўдамузыка і без таго захапіла ўвесь эфір. Хай вашы рокеры спачатку ноты вывучаць, а потым у музыку лезуць.

І «Бонда», і «Мроя», і іншыя калектывы пасля таго ўсё ж выступалі на тэлебачанні раз ад разу, але пад эгідай іншых рэдакцый: маладзёжнай, навукова-папулярнай. Для музрэдакцыі табу, накладзенае на рок-музыку прафесіяналам, аказалася вызначальным. А між тым,—гэта звычайная спрэчка пакаленняў, кожнае з якіх мае свае крытэрыі падыходу да з'яў мастацтва. Зразумела, пісьменнасць — адзін з гарантаў прафесійнасці. Але ці адзіны?

Ці выкраслілі б мы ўсе народныя песні, даведаўшыся, што іх аўтары не ведалі нот? Ці лёгка аддалі б прыярытэт перад беларускімі казкамі якому-небудзь опусу выпускніка філфака БДУ?

А рок жа — гэта сучасны фальклор.

Да таго ж валоданне нотнай граматай не толькі не адзіны, але і далёка не ідэальны крытэрый. Бо яна сама толькі пасрэднік у недасканалай сістэме духоўнай сувязі паміж кампазітарам і слухачом. Удасканаленне яе часам прыводзіць нават да поўнага скасавання нотнага запісу як перашкоды (нават у галіне прафесіянальнай музыкі, напрыклад, электроннай).

З гэтага боку рок-музыка таксама не патрабуе нотнага запісу, бо выканаўцам тут выступае сам аўтар. Нават прыклады выканання рок-групамі твораў іншых аўтараў сведчаць аб стварэнні на іх базе новых выяўленчых канцэпцый, амаль новых твораў шляхам асабістага пераасэнсавання ідэйна-эмацыянальнага зместу кампазіцыі.

Так што абвінавачанне «Бонды» ў музычнай непісьменнасці зусім беспадстаўнае. Тым больш, калі ўлічваць характэрнае ўдзельнікам пачуццё адказнасці за сваю творчасць, пастаяннае самаўдасканаленне і імкненне да ідэалу. Памятаю, «Бонда» ўжо шырока давала канцэрты, яе імя было ва ўсіх на вуснах, радыё патрабавала ў эфір касету, а «Бонда» не дазваляла публікаваць запіс, які на той час хадзіў ужо па руках меламанаў.

— Для нас быў падзеяй кожны выхад да публікі, але мы не мелі права ў сваёй амбіцыёзнасці забываць пра прэстыж беларускага рока. Касета на той час была недасканала запісана і не мела права з'явіцца ў эфіры, нягледзячы на папулярнасць і наша ўласнае імкненне да эфіру. Яе трэба было перапісаць з усёй карпатлівасцю.

Настаў час, калі яны запісалі, нарэшце, усё як трэба. Нават тыя, што лічылі добрымі і былыя запісы, убачылі розніцу. Кінастудыя «Беларусьфільм» тут жа прапанавала «Бондзе» запісаць відэакліп паводле адной з песень (тэлепрэм'ера «бондаўскага» кліпа «Ура!», прысвечанага праблеме сучаснага асэнсавання сталінізму, адбылася ў кастрычніку 1988 года).

З новай касетай пабывала «Бонда» і ў Маскве. Цікавая была рэакцыя стваральнікаў папулярнай праграмы ЦТ «Ранішняя пошта»:

— Хлопцы, вы іграеце выдатна. Але мы не разумеем вашага падыходу. Калі вы ствараеце рок, папулярную музыку, дык не трэба псаваць у гэтых рытмах беларускую паэзію.

— Але гэта беларускі рок. Ён патрэбен маладым беларусам. Мы самі бачылі на канцэртах, як людзі пачынаюць далучацца да роднай мовы праз яго,—тлумачыў Сяржук Краўчанка.

— Фальклор? Дык гэта добра прыдумана. Давайце мы спецыяльна для вас падрыхтуем нумар у нашай праграме: вы апранаеце кашулі з арнаментам, лапці, зробіце рокавую апрацоўку народнай мелодыі, і мы вас запішам з задавальненнем.

Такое вульгарызатарскае разуменне фальклору не падышло «Бондзе». І яна адмовілася ад запісу. Але гэтая прынцыповасць не пашкодзіла іх выхаду да ўсесаюзнага тэлегледача, бо рэдакцыя не менш папулярнай праграмы ЦТ «Погляд» убачыла ў «Бондзе» праяву здаровага адраджэння беларускай нацыі ў самых сучасных культурных плынях, у самых — трэба дадаць — масавых. «Погляд» замовіў сабе відэакліп «Ура!»

Пакуль што мы нічога не сказалі пра стылістыку «бондаўскай» рок-музыкі, без чаго любому рок-аматару як у нас, так і за мяжой будзе цяжка зрабіць дакладнае ўяўленне аб калектыве. Варта заўважыць, што спачатку яна развівалася ў канвенцыі жорсткай постпанкаўскай хвалі. Але тут напрошваецца параўнанне «Бонды» з новахвалевай брытанскай групай «Дайр стрэйтс», развіццё выяўленчых сродкаў якой дасягнула такога шырокага спектра, што музыку яе стала ўжо немагчы[illegible] адназначна акрэсліць н[illegible]ным з існуючых тэрмінаў.

Што датычыць тэматыкі песень, дык ужо ў першай праграме «Месца пад сонцам» яна была далёкая ад банальнасці, бо даследавала актуал[illegible] праблемы маладзёжна[illegible] сяроддзя, яго духоўнага [illegible]вету:

**Хмурным ранкам**
**у натоўпе бясконцым**
**Я знянацку падумаў сабе:**
**Кожны з нас мае месца**
**пад сонцам**
**Незалежна, хто ён і дзе.**

Але, скажам, апошняя праграма калектыву «І прыйдзе іх дзень» у поўных момантах падымаецца да сапраўднай публіцыстычнай вастрыні сацыяльных абагульненняў. Гэта і бескампрамісны прысуд сталінізму ў кампазіцыях «Курапаты» і «Ура!», і паўжартаўлівая іронія над хісткімі сувязямі чалавека з домам бацькоўскім у «Дурным хлопцы»...

Як ужо гаварылася, «Бонда» была сярод арганізатараў рок-клуба «Няміга», які адкрыўся ў 1986 годзе. Але з 1987 года яна працуе паўпрафесіянальна пры Белдзяржфілармоніі, а потым становіцца прафесійным калектывам музычнага цэнтра ЦК ЛКСМ Беларусі «Арыенцір». І хоць «Бонда» выйшла з рок-клуба, яна пастаянна ўдзельнічае ў традыцыйным клубаўскім фестывалі-аглядзе «Тры колеры», дапамагае апаратурай у іншых мерапрыемствах. Карацей кажучы, застаецца істотнай бондай агульнага нацыянальнага рок-руху.

Безумоўна, даводзіцца яшчэ чуць кпіны над словазлучэннем «нацыянальны рок» (нібыта ён можа быць толькі англійскім ці англамоўным), але следам за нацыянальнымі рок-плынямі Польшчы, Фінляндыі, Італіі і г. д. «Бонда» даказала, што і беларусы могуць заставацца самімі сабой ва ўсіх хітраспляценнях сучасных культур, узбагачаючы культуру агульначалавечую.

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА.**



**ПРЫЗНАННЕ КІТАЙСКАГА ЛІТАРАТАРА**

# ЧЫМ МНЕ БЛІЗКАЯ БЕЛАРУСЬ

Ужо сталі традыцыяй прыезды кітайскіх пісьменнікаў і перакладчыкаў у нашу рэспубліку. Нагадаю, што на пачатку 1986 года госцем Саюза пісьменнікаў БССР быў Гэ Баоцюань — перакладчык твораў Янкі Купалы і Максіма Танка. У верасні мінулага года Беларусь наведалі празаік У Цян, эсэіст У Тайчан, паэт Лі Шыфэй (дарэчы, паэма Лі Шыфэя «Хатынь» апублікавана ў перакладзе на беларускую мову ў адным з нумароў газеты «Літаратура і мастацтва»). Затым прыехала група актывістаў Таварыства кітайска-савецкай дружбы — выдаўцы, выкладчыкі, перакладчыкі.

Сёлета ў Мінску гасцяваў кітайскі перакладчык Гу Юй (сапраўднае прозвішча Гу Хэндун). Гу Юй нарадзіўся ў 1940 годзе ў правінцыі Хэбый. Працуе на факультэце замежных моў, выкладае гісторыю рускай літаратуры XIX стагоддзя. У сучасны момант знаходзіцца на стажыроўцы ў Ленінградскім універсітэце.

Госць быў прыняты ў Саюзе пісьменнікаў Максімам Танкам, меў гутарку ў Інстытуце літаратуры АН БССР, наведаў купалаўскі і коласаўскі музеі, быў у рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва».

Мне давялося пагутарыць з кітайскім перакладчыкам.

**— Што прывяло вас у Мінск?,— спытаў я ў госця.**

— Гэта мая мара пабываць у вас, бо даўно цікаўлюся беларускай літаратурай. Я пераклаў некалькі вершаў Янкі Купалы. Мне вельмі падабаецца таксама паэзія Максіма Танка. Мяне прываблівае ў ёй шчырасць і лірызм, жывая, дасціпная, даходлівая народная мова. Я люблю яго вершы пра маці, пра каханне, люблю яго грамадзянскую лірыку. Ва ўсёй яго паэзіі б'ецца маладое, гарачае сэрца. Нам, кітайцам, Максім Танк блізкі яшчэ і тым, што ён сказаў многа добрых, праніклівых слоў пра наш народ. У мяне перакладзена каля васьмідзесяці твораў паэта, спадзяюся, што калі-небудзь выдам яго кнігу ў сваім перакладзе. Да слова сказаць, у пекінскім часопісе «Руская савецкая літаратура» быў змешчаны мой артыкул «Максім Танк і яго паэзія».

**— Вы сустракаліся з Максімам Танкам. Якое ўражанне ён зрабіў на вас?**

— Прызнаюся, што як толькі прыехаў у Мінск, то найперш пазваніў паэту і сустрэўся з ім. Ён вельмі падобны на лірычнага героя сваіх вершаў — па-народнаму просты, шчыры, дасціпны. Я ўвачавідкі пераканаўся, што ён адзін з тых вашых паэтаў, якія ідуць ад народа, ад купалаўскіх і коласаўскіх традыцый.

Мы ўспомнілі ў размове Гэ Баоцюаня. Аказваецца, Гу Юй супрацоўнічаў з ім, ведае яго. Яны разам працавалі над перакладам зборнікаў «Выбраныя вершы савецкіх паэтаў» і «Выбраная лірыка савецкіх паэтэс». Дарэчы, у апошні зборнік увайшла і падборка вершаў мінскай паэтэсы Святланы Яўсеевай.

Гу Юй цікавіўся перакладамі кітайскіх пісьменнікаў на беларускую мову, узяў з сабой нумары газеты «Літаратура і мастацтва» з матэрыяламі, звязанымі з кітайскай літаратурай. На развітанне Гу Юй выказаў спадзяванне, што восенню зноў наведае Мінск.

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**



# СВЯТА «МІНСК-89»

**...Адгучалі фанфары, ускладзены букеты кветак і вянкі да помніка Перамогі, пад гукі марша прайшлі па вуліцах горада ветэраны — героі, хто вызваляў беларускую зямлю... Такім было адкрыццё свята «Мінск-89», прысвечанага 45-й гадавіне вызвалення рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. А затым яркімі фарбамі канцэртаў і выставак, тэатралізаваных шэсцяў і кірмашоў, дзівосных ператварэнняў і сюрпрызаў расцвіла беларуская сталіца.**

**На набярэжнай Свіслачы ў парку імя Янкі Купалы — вернісаж. У святочнай экспазіцыі цешылі вока калекцыі вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, серыі графічных работ, залаціліся рамкі жывапісных работ. А з боку праспекта Машэрава людзі ішлі з прыгожымі збанкамі, дзеці насвіствалі ў гліняныя свісцёлкі.**

**За плеценай агароджай «горада майстроў» — вазы-фургоны народных умельцаў. «З колаў» бойка гандлявалі распісным посудам і драўлянымі лыжкамі, пляцёнкамі і ручнікамі. Не абыйшлося на кірмашы без песень і танцаў. АплАдысментамі сустракалі дзесяткі мастацкіх самадзейных калектываў з Беларусі і Літвы.**

**НА ЗДЫМКАХ: фрагменты свята «Мінск-89». Фота С. КРЫЦКАГА.**







# КАМЕННЫЯ КРЫЖЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

сціхлі і ў небе з'явілася велічная, агністая постаць жанчыны. Здавалася, што яна ўвесь час ідзе і ідзе, але разам з тым стаіць на адным месцы. Потым раздаўся яе голас:

— Людзі! Я дапамагу вам! Я вярну сілу і бадзёрасць вашаму сыну!

— Дзякуй, дзякуй, табе, — у адзін голас, стоячы на каленях, ці то ад павагі, ці то ад перапалоху, загаварылі бацькі.

— Я дапамагу вам! Але вы шануйце тое, што знойдзеце наступным днём, і няхай дзеці вашыя, унукі і праўнукі шануюць яго і пакланяюцца!..

Неба зноў зацягнулі хмары, пайшоў дождж, загуў дзікі вецер у вершалінах лесу. Бацькі зірнулі на свайго хворага. І дзіва. Той спаў, але спаў не гэтак, як падчас хваробы, а як і раней, соладка ўсміхаючыся ў сне.

Раніцай старэйшыя накармілі дзяцей і пайшлі зграбаць сена на лузе, што непадалёку ад хаты. Адзін сын, які яшчэ не набраўся сілы, застаўся ляжаць, а другі падаўся на рэчку лавіць рыбу. Падышоўшы да берага, малы ўбачыў нешта дзіўнае, якое да гэтага разу ніколі не сустракаў. Нейкі дзіўны каменны слуп ляжаў на пяску метраў за дваццаць ад берага. Хлапчук са страху прыпусціў да бацькоў і расказаў ім пра ўсё, што знайшоў. Калі старэйшыя падышлі і агледзелі дзіўны прадмет, то вырашылі, што гэта і ёсць тое, пра што ім наказвала выратавальніца іхняга сына. Вырашылі адцягнуць крыж яшчэ вышэй і паставіць яго на ўзгорку, каб ён быў бачны здалёку. Што рашылі, тое і зрабілі, а з цягам часу пабудавалі над ім драўляную капліцу і сталі пакланяцца крыжу як свяшчэннай істоце, адтуль і назва — Святы крыж».

Кожны год, пасля кірмашу, гэта ўжо ў нашыя дні, мясцовыя жыхары прыносілі да капліцы своеасаблівы аброк: палатно, мяса, рыбу, птушку і іншае і пакідалі ля падножжа крыжа.

Прыгожая легенда, але факты — рэч суровая. І таму мы прытрымліваемся наступнай думкі, у якой, як лічым, ёсць рэальныя карані. Хутчэй за ўсё крыж паставілі прапаведнікі новай веры — хрысціянскай у мясціне, дзе да гэтага язычнікі здзяйснялі свае рытуальныя абрады і тым самым апаганілі яе, г. зн.— закрылі. На гэта ўказвае і прыкладны «ўзрост» крыжа — адзінаццатае стагоддзе.

У Гомельскім абласным музеі ёсць яшчэ два каменныя крыжы, праўда, значна меншых памераў. Прыкладна метр у вышыню і сантыметраў 60 у шырыню. Яны асаблівай каштоўнасці для навукі не ўяўляюць, бо стаялі на Барысаглебскіх могілках у тым жа Тураве і выконвалі сваё непасрэднае прызначэнне—былі ўзведзены на магілах памёршых тураўчан. Адзін з іх «двайны» крыж. Гэта значыць, што на самім крыжы выбіты яшчэ адзін, дзесьці 10×10 сантыметраў, а другі — старанна адшліфаваны, трэба думаць, такімі ж камянямі, толькі значна меншымі. Нейкі сумленны працаўнік доўга рыхтаваў гэты просты помнік, каб потым паставіць яго на магіле нябожчыка і такім чынам захаваць памяць блізкага яму чалавека ў свядомасці нашчадкаў.

Вось і ўсё, што нам удалося даведацца пра каменныя крыжы на тэрыторыі Беларусі, пра пакланенне ім, пра тое, як у іх прасілі дапамогі ў цяжкі час, як прыносілі да іх падножжа аброк, каб угаварыць крыжы садзейнічаць у далейшым жыцці. Усе гэтыя паданні і легенды, былічкі і апавяданні з'яўляюцца старонкай нашай гісторыі, на вялікі жаль, старонкай напаўзабытай і мала даследаванай.

**Аляксей НЕНАДАВЕЦ.**

## спорт

— Мы вельмі рады таму, што Вячаслаў Фяцісаў і Сяргей Старыкаў цяпер будуць абараняць цвет «Нью-Джэрсі Дэвілз». З імі мы можам разлічваць на перамогу ў розыгрышу Кубка Стэнлі. Для нас гэта сапраўды гістарычная падзея, — сказаў генеральны менеджэр клуба «Дэвілз» Луіс Ламарэла.

Так, хакейныя зоркі В. Фяцісаў, С. Старыкаў сёлета будуць гуляць у НХЛ. За акіян адправяцца і іх таварышы па зборнай СССР І. Ларыёнаў і С. Макараў, якія падпісалі кантракты адпаведна з клубамі «Ванкувер Канакс» і «Калгары Флэймз».

Дарэчы, кантракты з замежнымі клубамі падпісалі і многія мацнейшыя савецкія баскетбалісты: Сабоніс, Курцінайціс, Марчулёніс...

Савецкія аматары спорту вельмі заклапочаны такой справай. Задаюць, натуральна, справядлівае пытанне Дзяржкамспорту СССР: ці не «збяднее» ад гэтага наш спорт? Ці знойдзецца дастойная замена славутым ігракам?..

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 782